БІЗНЕС-КЛАС

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА

Тэл. 68-28-32

## Слова скажуць акцыянеры

Нядаўна пуставала месца старшыні праўлення буйнейшага банка Беларусі "Белаграпрамбанка" Міхаіла Чыгіра, які не так даўно падняўся па кар'ернай лесвіцы на пасаду прэм'ер-міністра. Яго месца заняў першы намеснік старшыні праўлення Аляксандр Аляксандравіч Застаўнюк. Пакуль, праўда, ён з'яўляецца выконваючым абавязкі і будзе ім да сходу акцыянераў.

Новаму кіраўніку "Белаграпрамбанка" ў кастрычніку споўніцца 47 гадоў. Ён скончыў Беларускі інстытут народнай гаспадаркі, жыве з сям'ёй, у якой, акрамя жонкі, двое дзяцей: дачка працуе ў Нацбанку рэспублікі, а сын яшчэ вучыцца. Хобі Аляксандра Аляксандравіча — спорт, кнігі.

**Святлана КУЛІКОВА.**

## Стальныя пуці "лечыць" "Керша"

Беларускія чыгуначнікі ўпершыню вырашылі праверыць у рабоце амерыканскія машыны па рамонту магістраляў. З жніўня на станцыі Гарадзішча, недалёка ад Мінска, прайшла прэзентацыя тэхнікі амерыканскай фірмы "Керша". У беларускіх спецыялістаў была магчымасць паглядзець, наколькі практычныя ў рабоце гэтыя машыны. Бакі абмяняліся думкамі, амерыканцы адказалі на пытанні беларускіх чыгуначнікаў. Час пакажа, ці надзейна "лечаць" стальныя пуці заморскія машыны. А значыць, ці будзе мець гэта супрацоўніцтва працяг.

## Ад выставы – да фестывалю кірмашоў

Такі шлях за два гады прайшла фірма "Экаінфармсістэма", якая стала ініцыятарам і арганізатарам правядзення ў Мінску адразу некалькіх кірмашоў: "Усё для лэдзі", "Мэбля" і "Беларускія кантакты".

Як расказаў на праведзенай прэс-канферэнцыі дырэктар "Экаінфармсістэмы" Леанід Левін, заяўкі на ўдзел у кірмашах падалі каля ста фірм з Беларусі, Украіны, Расіі, рэспублік Балтыі і краін далёкага замежжа.

Удзельнікі кірмашоў маюць намер прапанаваць наведвальнікам больш як тысячу розных назваў тавараў: касметыку, швейныя і трыкатажныя вырабы, прадукцыю з бурштыну, бытавыя электратавары. Самыя багатыя наведвальнікі змогуць выбраць мэблю для офіса, кватэры. Як абяцаюць арганізатары, тавары, набытыя на выстаўцы, дапамогуць зэканоміць да 20 працэнтаў іх рознічнага кошту.

Выстава пройдзе з 16 па 20 жніўня.

## Банкі ствараюць фонд

Старшынямі праўлення буйнейшых камерцыйных банкаў рэспублікі на сустрэчы ў Кабінеце Міністраў Беларусі была адобрана ініцыятыва стварэння спецыяльнага фонду сацыяльнай падтрымкі, які будзе аказваць дапамогу дзеячам навукі, культуры, усім тым людзям, хто мае асаблівыя заслугі перад рэспублікай, але па розных прычынах апынуўся ў складаным матэрыяльным становішчы.

Абавязкі па кантролю і рэгуляванню яго дзейнасці мяркуецца ўскласці на грамадскі савет.

**БЕЛІНФАРМ.**

## "Каса ўзаемадапамогі" для бізнесменаў

Інвестыцыйны фонд для крэдытнай дапамогі бізнесменам стварыў Беларускі фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў.

Устаўны капітал фонду фарміруецца за кошт дабрачынных пералічэнняў удзельнікаў. Сродкі акумуліруюцца на субрахунку БФФПП. Падпісанне больш як 40 дагавораў на ўдзел, аб жаданні працаваць з Інвестфондам заявіў "Беларусбанк".

Прадпрыемствы-ўдзельнікі кожны месяц пералічваюць у Інвестфонд да 1 працэнта ад сабекошту сваёй прадукцыі. Далей яны могуць разлічваць на фінансавую падтрымку для развіцця вытворчасці як на беззваротнай, так і на зваротнай аснове (шляхам прадастаўлення пазыкі пад працэнты). Інвестфонд можа выступіць гарантам пры атрыманні крэдытаў у банках, а таксама ад замежных інвестараў.

**Святлана КУЛІКОВА.**

■

БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

*Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ:*

# "Нам не дапаможа ні старэйшы брат, ні дзядзька з-за акіяна"

*Час ад часу любая краіна трапляе ў пераломны перыяд. Здаецца, мы ў ім перманентна знаходзімся апошнія 7—8 гадоў. Каб не зламацца на гэтым пераломным этапе, часам варта звярнуцца да, так бы мовіць, лепшых розумаў нацыі, каб , з аднаго боку, праверыць уласныя думкі і пачуцці, а з другога — падмацавацца разважлівасцю чалавека, якога паважаеш. Менавіта з такой мэтай мы звярнуліся да вядомага грамадскага дзеяча, доктара гістарычных навук, прафесара Анатоля Пятровіча Грыцкевіча. Тэма гаворкі — сучаснае становішча Беларусі і гістарычныя прычыны яго.*

**— Анатоль Пятровіч, лічыцца, што ў гісторыі ўсё паўтараецца. Якія гістарычныя паралелі з сённяшнім днём Вы б маглі правесці?**

— Дакладна нічога ніколі не паўтараецца, але паралелі ў гісторыі могуць быць. Наша цяперашняе становішча, як мне здаецца, усё ж адрозніваецца ад таго, што было ў 20-я гады, калі была Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка і беларусізацыя. Адрозніваецца і ад страты нашай дзяржаўнасці ў канцы XVIII ст., калі былі ліквідаваны Вялікае княства Літоўскае і беларуска-літоўская дзяржава. Ёсць пэўныя паралелі. Яны ў тым, што значная частка грамадства яшчэ не вельмі ўсвядоміла неабходнасць незалежнасці. І ў гэтым наш час можна параўнаць з 20-мі гадамі, бо тады хоць і лічылася, што ёсць незалежная БССР, але яна такой не была. У нас сёння ўсё ж няма рэпрэсій супраць нацыянальных кадраў, якія адбываліся тады. Але і цяпер не вельмі шануюць гэтыя нашыя нацыянальныя кадры, не вельмі іх слухаюць. Для прыкладу параўнаем наш Вярхоўны Савет і Сойм часоў Кацярыны II. Наш парламент абраны на пяць гадоў, а Сойм быў 4-гадовы, праўда хутка інтэрвенцыя спыніла яго дзейнасць, Сойм разагналі. Дарэчы, той даўнейшы парламент праводзіў рэформы, а наш сучасны не праводзіць. Карацей кажучы, паралелі ёсць і адначасова іх няма.

**— Многія лічаць, што сваёй незалежнай палітыкі сучасная Беларусь не мае. Прынамсі, не мела да апошняга часу. Чаму так адбываецца?**

Таму што яшчэ засталіся ранейшыя погляды на жыццё. Шмат хто не лічыць Беларусь незалежнай, а думае, што па-ранейшаму існуе Савецкі Саюз. Але мне здаецца, што сама логіка падзей прымусіць цяперашнюю ўладу, перш за ўсё я маю на ўвазе маладога беларускага прэзідэнта Лукашэнку, быць незалежным. Ён яшчэ не зведаў, што такое адказнасць за лёс краіны, і цяпер толькі ўваходзіць у гэта. Мне здаецца, што чалавек ён сумленны і павінен зразумець, што на ім ляжыць вялікая адказнасць і трэба быць незалежным прэзідэнтам, а не губернатарам, якога могуць заўтра зняць. І не адзін жа прэзідэнт кіруе краінай. Логіка падзей прымусіць і ўсю яго адміністрацыю і ўрад быць больш незалежнымі.

**— Здаецца, у Ніцшэ ёсць такі выраз: перш чым навучыцца лятаць, трэба навучыцца падымаць галаву, стаяць на каленях, поўзаць, хадзіць, бегаць і г.д. Як вам здаецца, на якім этапе мы знаходзімся?**

— Мы ўжо вучымся і галаву падымаць, і ўставаць з каленак. Мне здаецца, цяпер у нас пераходны этап. Гэта тычыцца і эканомікі, і палітыкі. Культура цяпер у асноўным з Захаду ідзе. Я не супраць масавай культуры, але... Тут я павінен сказаць пра ролю інтэлігенцыі. Яна заклікана быць наперадзе ў кожным працэсе, а ў нас інтэлігенцыя, на жаль, не займае гэтага месца.

**— Чаму?**

— На Захадзе, асабліва ў нашых суседзяў палякаў, ёсць такі тэрмін: паўінтэлігенцыя, г.зн. людзі, якія маюць дыпломы, але носьбітамі інтэлектуальнасці не з'яўляюцца, а, значыць, не з'яўляюцца правадырамі народа, чым і павінна быць інтэлігенцыя. З другога боку пэўную ролю адыгрываюць і вясковыя карані большасці нашай інтэлігенцыі, бо раней жа асноўная частка насельніцтва жыла ў вёсках. Таму, можа, і сама інтэлігенцыя яшчэ не пачуваецца "перадавым атрадам", прабачце за вайсковую тэрміналогію. Але мне здаецца, што з цягам часу роля інтэлігенцыі становіцца ўсё большай і прыкметнай. Зноў-такі, пакуль значная частка інтэлігенцыі пачувае сябе не нацыянальнай, а савецкай.

**— Сярод многіх народаў мы вызначаемся прытупленым пачуццём болю за лёс сваёй мовы.**

— Усё гэта наша гісторыя. 200 гадоў былі пад расійскім панаваннем, спачатку — імперыі, потым — Савецкага Саюза, і апошняе стагоддзе ў складзе Рэчы Паспалітай. Наша тагачасная інтэлігенцыя — шляхта — не вельмі прытрымлівалася нацыянальнай ідэі, а намагалася зраўнаваць свае правы з суседзямі — братамі-палякамі. Я не хачу сказаць, што гэта была здрада, але ўсё ж адышлі ад свайго нацыянальнага пытання. Усё гэта паўплывала, асабліва апошнія 200 гадоў. Спачатку царызм праводзіў палітыку апалячвання насельніцтва. Нават універсітэт у Вільні быў таксама польскім. І ўсё гэта было мэтанакіравана, каб тут, на мяжы імперыі, было ціха, каб шляхта была спакойная, каб не падымаліся на паўстанні і сачылі за сялянамі. Першыя дзесяцігоддзі было жорсткае апалячванне, ва ўсіх установах была польская мова, толькі ў Пецярбург пісалі па-расійску. А вось пасля паўстання 1831 года і яго паразы пачалася русіфікацыя. Калі раней у гарадах гаварылі папольску, дык пасля гэтых падзей на вуліцах Мінска загаварылі ўжо па-расійску. Тая ж палітыка праводзілася і за савецкімі часамі. Хаця і лічылася, што вядзецца беларусізацыя, усё ж мова братняя запанавана. Мне не хочацца казаць трывіяльныя рэчы, але не сакрэт, што калі чалавек пераязджаў з вёскі ў горад, то заўсёды хацеў гаварыць "культурна", г.зн. (у нашым разуменні) на трасянцы. Я павінен сказаць, што і іншыя народы Еўропы былі, а некаторыя і цяпер ёсць, у такім становішчы.

**— Але як хутка іншыя народы адраджаюцца. У нас гэта не атрымліваецца. Відаць, з-за марудлівасці і кансерватыўнасці.**

— Кансерватыўнасць у народа, вядома, ёсць. Я б нават назваў прэзідэнцкія выбары таксама кансерватыўнымі ў пэўнай ступені. З аднаго боку поўная параза камуністычнай ідэі і партыі, а з другога — нежаданне і боязь радыкальных перамен, і таму менавіта дэмакратычныя кандыдаты і не атрымалі вялікай колькасці галасоў. Можа, гэта перасцерагае кансерватызм. Некаторыя лічаць, што такі кансерватызм захоўвае народ ад нейкіх большых бед. Псіхалогія накшталт: лепей перачакаць, перасядзець.

**— Анатоль Пятровіч, Вы ўзначальваеце Згуртаванне беларускай шляхты. Чаму ў нашай краіне адносіны да дваранства заўсёды моцна адрозніваліся, напрыклад, ад сітуацыі ў Расіі? У нас жа пра шляхту ніхто нічога не ведае, акрамя таго, што гэта вельмі фанабэрысты клас.**

— Шляхта ў нас заўсёды была занадта шматлікай. У Расіі дваранства складала 1 працэнт, а ў нас ажно 10—12 працэнтаў насельніцтва, кожны 8-ы ці 10-ы чалавек у нас быў шляхціцам, таму сутыкненняў было шмат. Да таго ж большая частка шляхты была дробнай, тая самая, пра якую распавёў Янка Купала, ён паходзіў менавіта з такой шляхты. Пан Адольф Быкоўскі лічыцца вобразам фанабэрыстага шляхціца. Хаця, можа, гэта і не зусім так, а можа, і зусім не так. Калі ў Расіі ўзяць разам казакоў і дваранства, дык і атрымаецца наша шляхта. Прыкладна 2/3 нашай шляхты ў дваранства расійскае не трапіла. Трэба сказаць, што ў шляхты шмат было і добрых рыс. Гэта — патрыятызм, змаганне за Радзіму, служба войску, бо сяляне не служылі, рэкрутаў у нас не было. За стагоддзе шляхта ўсё ж выпрацавала ў сабе пачуццё гонару. Праўда, цяпер гэта ўсё ў значнай ступені страчана, і найперш — шляхетныя адносіны. (У беларускай мове ёсць такое паняцце — шляхетныя адносіны). І ўсё ж, калі 1 лістапада 1992 г. адбыўся станоўчы сойм Згуртавання беларускай шляхты, на ім прысутнічала некалькі соцень чалавек, якія не пабаяліся прызнацца ў сваім шляхетным паходжанні. Бо некаторыя яшчэ і дасюль баяцца. Я думаю, што шляхта шмат што можа зрабіць для нацыянальнага адраджэння, нягледзячы на тое, што шляхта належыць да розных канфесій, а некаторыя нават атэісты. Кожны з нас мае розныя палітычныя погляды, але ўсе мы можам папрацаваць для Бацькаўшчыны.

**— Рускі класік заўважыў, што няма прарокаў у сваёй Айчыне. Хаця ў самой Расіі прарокаў заўсёды хапала і зараз ёсць людзі, а менавіта пісьменнікі, да якіх нацыя прыслухоўваецца. Напрыклад, Салжаніцын. У нас такога не было і няма. Што гэта — сведчанне еўрапейскасці альбо слабай павагі народа да сваіх лепшых прадстаўнікоў?**

— Народ не прызвычаіўся да прарокаў, прызвычаіўся больш да начальства, але я лічу, што ў нас прарок усё ж такі ёсць, можа, не ў біблейскім сэнсе, а хутчэй, у палітычным. Колькі супрацоўнічаю з Зянонам Пазьняком, я бачу, што ён ніколі не памыляецца ў сваіх прагнозах. Але сапраўды няма прарокаў у сваёй Айчыне, не вельмі яго шануюць і зусім не слухаюць. Народ лічыць, што можна абысціся і без прарока, лепш паслухаць начальства. "Хай думае начальства!" Мне здаецца, што ў народа нават і цяпер такое спадзяванне: выбралі прэзідэнта, хай ён думае, гэта яго справа, а не наша. А справа ўсё ж наша агульная. Трэба зразумець: ніхто нам дапамагаць не будзе, ні брат — старэйшы ці малодшы, ні дзядзька з-за акіяна. Калі самі не зробім — нічога ў нас не будзе.

**Гутарыла Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ.**

■

ПАМЯЦЬ

Цяжка пазнаць у сённяшніх ужо немаладых людзях сыноў палкоў, юных партызан... Тым не менш і Ніна Фёдараўна Сакалова, і Віктар Мікалаевіч Палякоў у гады вайны былі дзецьмі і дапамагалі дарослым наблізіць Перамогу. Яны пачалі свой баявы шлях у 1941 годзе ў Свяцілавіцкім атрадзе, які быў створаны ў Веткаўскім раёне і ўвайшоў у Чарнігаўскае злучэнне. Шмат розных даручэнняў давялося выканаць юным партызанам.

А сустрэліся яны нядаўна на традыцыйным злёце байцоў батальёна беларускіх арлянят, які прайшоў у Гомелі. Было пра што прыгадаць былым абаронцам Радзімы!

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ.**

АФІЦЫЙНА

# ПАСТАНОВА

## Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь N 3

### АБ МЕРАХ ПА АКАЗАННЮ ФІНАНСАВАЙ ПАДТРЫМКІ АСОБНЫМ КАТЭГОРЫЯМ ГРАМАДЗЯН

У мэтах сацыяльнай абароны асобных катэгорый грамадзян у сувязі з увядзеннем свабодных цэн на хлеб, хлебабулачныя вырабы, малако і малочныя прадукты, дзіцячае харчаванне Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Увесці з 1 жніўня 1994 г. штомесячную грашовую кампенсацыю ў наступных памерах:

непрацуючым пенсіянерам, якія атрымліваюць працоўныя і сацыяльныя пенсіі, а таксама пенсіянерам, што працуюць у калгасах, саўгасах і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемствах,— 85 тысяч рублёў;

сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей (на кожнае дзіця) ва ўзросце да 16 гадоў (вучняў дзённых сярэдніх агульнаадукацыйных школ, гімназій, ліцэяў і іншых аналагічных навучальных устаноў, школ-інтэрнатаў усіх тыпаў і назваў да іх заканчэння, а таксама навучэнцаў, якія вучацца за кошт уласных сродкаў у вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных установах і на курсах, што працуюць па рэжыму навучальных устаноў у дзённы час, і не атрымліваюць стыпендый,— да 18 гадоў) — 80 тысяч рублёў;

непрацуючым працаздольным грамадзянам, якія ажыццяўляюць догляд інвалідаў І групы або састарэлых, што маюць патрэбу па заключэнню лячэбнай установы ў пабочным доглядзе або дасягнулі 80 гадоў, а таксама догляд дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў,— 85 тысяч рублёў;

студэнтам вышэйшых навучальных устаноў, навучэнцам сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў (якія не атрымліваюць харчавання), у тым ліку тым, хто знаходзіцца ў акадэмічным водпуску па медыцынскіх паказаннях,— 80 тысяч рублёў;

грамадзянам, якія атрымліваюць дапамогу па беспрацоўю і стыпендыі пры праходжанні прафесійнай падрыхтоўкі, павышэнні кваліфікацыі па накіраванню дзяржаўнай службы занятасці,— 75 тысяч рублёў;

2. Выплату штомесячнай грашовай кампенсацыі праводзіць:

непрацуючым пенсіянерам, якія атрымліваюць працоўныя і сацыяльныя пенсіі, а таксама пенсіянерам, якія працуюць у калгасах, саўгасах і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемствах, — па месцы пражывання ў органах, што назначылі пенсію ці дапамогу;

сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, па месцы асноўнай работы маці, а ў выпадку, калі маці не працуе,— па месцы асноўнай работы бацькі ці асоб, якія замяняюць бацькоў. У іншых выпадках кампенсацыя выплачваецца ў органах сацыяльнага забеспячэння па месцы пражывання. Выплата гэтай кампенсацыі не праводзіцца на дзяцей, якія знаходзяцца на поўным дзяржаўным забеспячэнні, а таксама на дзяцей, якія выхоўваюцца ў сем'ях, дзе абодва бацькі працаздольныя (у няпоўнай сям'і — працаздольны адзін з бацькоў) не працуюць і не знаходзяцца на ўліку ў дзяржаўнай службе занятасці, акрамя няпоўных сем'яў, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце да 8 гадоў.

Указаныя выплаты ажыццяўляюцца Фондам сацыяльнай абароны насельніцтва за кошт сродкаў, перадаваемых з рэспубліканскага бюджэту;

студэнтам вышэйшых навучальных устаноў, навучэнцам сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў — па месцы іх вучобы за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту;

грамадзянам, якія знаходзяцца на ўліку ў дзяржаўнай службе занятасці і атрымліваюць дапамогу па беспрацоўю і стыпендыі пры праходжанні прафесійнай падрыхтоўкі, павышэнні кваліфікацыі па накіраванню гэтай службы,— у цэнтрах занятасці насельніцтва за кошт сродкаў фонду садзейнічання занятасці.

Указаныя выплаты ажыццяўляюцца ў выглядзе спецыяльных даплат да заработнай платы, дапамогі, стыпендыі, дапамогі па беспрацоўю па асобнай ведамасці па месцы іх атрымання.

3. Устанавіць, што выплата штомесячнай грашовай кампенсацыі за жнівень 1994 г. праводзіцца не пазней 20 числа гэтага месяца.

4. Выплата штомесячнай грашовай кампенсацыі на дзяцей ажыццяўляецца прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі за кошт сродкаў, якія падлягаюць пералічэнню ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва.

Калі разлікі прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый з Фондам сацыяльнай абароны насельніцтва завершаны ці ў іх адсутнічаюць сродкі на рахунках, Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва пералічвае ім асігнаванні на выплату ўказанай кампенсацыі.

Міністэрству фінансаў забяспечыць папераджальнае фінансаванне Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.

5. Прасіць Нацыянальны банк даць указанне банкам аб першачарговым выдзяленні сродкаў на выплату штомесячнай грашовай кампенсацыі асобным катэгорыям грамадзян.

Выдзяляемыя асігнаванні маюць строга мэтавае прызначэнне.

6. Міністэрству фінансаў сумесна з Дзяржаўным камітэтам па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва, Фондам сацыяльнай абароны насельніцтва ўстанавіць парадак выплаты штомесячнай грашовай кампенсацыі.

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М.ЧЫГІР.**

**10 жніўня 1994 г. г.Мінск.**

ЗАМАЛЁЎКІ З НАТУРЫ

## Дзед Антон і Лена

Вёска Буда жыла ціха і спакойна. Яе жыхары — людзі пажылога веку час не падганялі. Адметнымі сярод іх былі хіба што крамшчыца Лена Мохарт і дзед Антон.

Лена, жанчына за сорак гадоў, была дзябёлая і прывабная. І, галоўнае, гладкая як печ. Калі б не бяльмо на правым воку, яна даўно б жыла ў горадзе, як і ўсе яе равесніцы. Дзеду Антону ішоў семдзесят шосты год. Пасля першай чаркі ён меў звычку ўсіх папярэджваць:

— Я нарадзіўся да рэвалюцыі. Мяне трэба берагчы!

Яму ніхто не даваў столькі гадоў, бо хадзіў ён заўсёды шпарка, нават падбегам, не гарбаціўся і, на дзіва ўсім вяскоўцам, меў поўны рот роўных зубоў. Зімою і ўлетку дзед заўсёды лавіў і прадаваў рыбу.

— Прыробак да пенсіі,— тлумачыў ён усім.

Старшыня сельсавета бачыў, што з кожным днём дзеду Антону жывецца ўсё горш і горш. Цэны ўвачавідкі павышаліся, а яму, адзінокаму, дапамогі чакаць не было адкуль і ад каго. Ён і прыладкаваў дзядулю вартаўніком крамы. Стары ахвотна згадзіўся, і пачаў хадзіць на працу. У першы ж вечар, каб адзначыць гэтую падзею, Лена вырашыла пачаставаць Антона.

— Ну, дзядуля, давай кульнём па чарцы. Адзначым тваю пасаду.

Лена выпіла сваю чарку залпам , а дзед Антон — марудна, маленькімі глыткамі смакаваў гарэлку. Кульнулі яшчэ па адной... Лена зацягнула песню, а потым дзед Антон доўга ёй падпяваў пра сваё гераічнае франтавое жыццё. І атрымаўся у іх вельмі ж суладны вясёлы вечар.

Работа была ў Антона лёгкая. Зладзеяў нідзе не было чуваць, і дзед, як толькі на вёску нагортвалася ноч, клаў сваю стрэльбу пад сцяну крамы і сам клаўся тут жа спаць. Яго ніхто не турбаваў. Хіба толькі Лена Мохарт: запрашала ў краму пачаставацца. У такія вечары Буда поўнілася песнямі з крамы і доўга там, да позняй ночы гарэла святло.

Папаўзлі чуткі. Адны буднікі загадкава ўсміхаліся, другія жартавалі. А трэція папярэджвалі старшыню сельсавета:

— Прап'юць Алена з дзедам наш магазін.

І вось дачакаліся: з раёна прыехаў рэвізор. Тры дні ён корпаўся ў крамных паперах, усё лічыў, пералічваў. Потым з'явілася ў раёнцы нататка. У ёй падрабязна пісалася пра тое, як вартаўнік Антон Шрубок спакусіў крамшчыцу Лену Мохарт. Іх сумесныя, маўляў, п'янкі давялі да растраты дзяржаўных сродкаў. Буднікі чыталі газету і хапаліся за жываты ад рогату:

— Ну і дзед Антон! Ды яму ордэн трэба даваць, а не крытыкаваць.

Пасля гэтага з вясковага магазіна больш не чуваць было песень, якія зацягвала штовечар Лена. За прылаўкам ужо стаяла новая крамшчыца. А дзед Антон хутка памёр, не вытрымаў ганьбы.

## П'яны певень

Па адзін бок вёскі Крыніцы быў глыбокі лес, па другі — прыпынак электрычкі.

Апоўдні грыбнікі, гарадскі люд, выходзілі з лесу і заўсёды спыняліся ў канцы вёскі, каб папалуднаваць. Умошчваліся на лужку, раскладвалі на газетах хлеб, яйкі, кілбасу. Сёй-той даставаў і ставіў перад сабою піва, гарэлку ці віно — на прыродзе, маўляў, смачна п'ецца. Сярод гэтых грыбнікоў быў і я.

І вось з суседняга двара выйшаў руды, мурзаты певень з шызым грэбенем. Ён асцярожна падышоў, нібы падкраўся, да грыбнікоў і спыніўся. І пачаў да нечага прыслухоўвацца, прыглядацца.

— А-а, алкаш, ужо на баявым пасту, — усміхнуўся мужчына пажылога выгляду і апусціў каля мяне на траву свой кошык.

— Хто алкаш?— не зразумеў я.

— Як хто? Певень. Хутка будзе ў канаве ляжаць.

— Няўжо гарэлку любіць?

— Ды яшчэ як! Гаспадыня не ведае, што з ім рабіць. Зачыняе яго ў хляве, дык праз страху прадзіраецца і да грыбнікоў бяжыць.

Грыбнікі сустрэлі пеўня вясёлымі жартамі. Кожны хацеў яго пачаставаць, хто кідаў пеўню хлеб, хто скрылёк кілбасы ці сыру, але наравісты госць нават вокам не вёў на гэтыя смачныя пачастункі. Уся яго ўвага была скіравана ў той бок, дзе звінелі шклянкі. І вось ён асцярожна, крок за крокам, пачаў падкрадвацца да мужчын, якія частаваліся гарэлкаю. Падышоў, спыніўся ля іх, нецярпліва пераступаючы з нагі на нагу. І раптам нехта з мужчын кінуў яму пад дзюбу кавалак хлебнага мякішу, змочанага ў шклянцы гарэлкі. Певень прагна, адным глытком праглынуў. Потым яшчэ і яшчэ. Не прайшло і дзесяці хвілін, як з пеўнем пачало рабіцца нешта дзіўнае. У яго пачалі заблытвацца ногі, пеўня, нібы ад ветру, заносіла ўбок, і госць грыбнікоў на ўсю моц пачаў хрыпла кукарэкаць. А потым зусім зваліўся набок і заціх.

— Усё, наклюкаўся,— азваўся мой сусед і падняў з зямлі кошык.

З двара выбегла гаспадыня, схапіла пеўня за ногі і панесла дамоў.

— Ірады праклятыя, зноў напаілі!

Грыбнікі зайшліся ад рогату.

■ **Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

Навіны ад Гаўдэамуса

## На зыходзе – працоўнае лета

***Заканчваецца працоўны семестр для многіх студэнцкіх атрадаў рэспублікі.***

Спецыяльна заказаны Лігай добраахвотнай працы студэнтаў эшалон прывязе 25 жніўня з Цірaспаля ў Мінск беларускіх хлопцаў і дзяўчат, якія працавалі на агароднінных плантацыях. Прыбыццё іншых атрадаў са Стаўрапольскага краю запланавана на 30 жніўня. Як паведамілі ў Лізе добраахвотнай працы студэнтаў, больш чым чатыры тысячы байцоў нарыхтавалі вітамінную прадукцыю для Беларусі ў Малдове, Крыме, Стаўрапольскім краі. Усе дагаворы, заключаныя паміж гаспадаркамі гэтых рэгіёнаў і беларускімі кансервавымі заводамі на пастаўку памідораў і перцу, выкананы. Дзякуючы рабоце студэнтаў, рэспубліка бесперапынна забяспечвалася вітаміннай прадукцыяй.

**БЕЛІНФАРМ.**

■

АФІЦЫЙНА

***

10 жніўня ўказам прэзідэнта рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі міністр лясной гаспадаркі Георгій Маркоўскі вызвалены ад займаемай пасады за "грубыя парушэнні працоўных абавязкаў", якія выявіліся ў халатных адносінах да арганізацыі і кантролю за знешнеэканамічнай дзейнасцю міністэрства, што "прывяло да нанясення матэрыяльнага ўрону інтарэсам рэспублікі".

Гэтым жа ўказам Кабінету Міністраў даручана ва ўстаноўленым парадку вырашыць пытанне аб вызваленні ад пасад кіраўнікоў абласных вытворча-лесагаспадарчых аб'яднанняў. Пракуратуры Рэспублікі Беларусь даручана вырашыць пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы па матэрыялах знешнеэканамічнай дзейнасці Міністэрства лясной гаспадаркі, якія прадстаўлены Кантрольнай палатай.

***

Раніцай 11 жніўня адбылася працяглая тэлефонная размова паміж прэзідэнтам рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам і прэзідэнтам Рэспублікі Казахстан Нурсултанам Назарбаевым.

Абмеркаваны два важныя пытанні. Першае датычылася прапанаванай Нурсултанам Назарбаевым ідэі еўразійскага саюза.

Другое пытанне закранала эканамічныя адносіны паміж дзвюма дзяржавамі, якія набываюць асаблівую актуальнасць у сувязі са значнымі стратамі ўраджаю ў выніку засухі ў Беларусі. Прэзідэнты выказалі надзею на актывізацыю эканамічных кантактаў як паміж дзяржавамі, так і паміж прадпрыемствамі, фірмамі, гаспадаркамі.

***

11 жніўня ў другой палове дня адбылася тэлефонная размова прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі з прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмай.

Размова датычылася, у асноўным, эканамічнага супрацоўніцтва дзвюх краін. Бакі дамовіліся аб правядзенні рабочай сустрэчы на вышэйшым узроўні, тэрміны якой будуць устаноўлены па дыпламатычных каналах.

***

10 жніўня ў Рэспубліку Беларусь з рабочым візітам прыбыў прэм'ер-міністр Рэспублікі Малдова Андрэй Сангелі.

У час гутаркі кіраўнікоў урада Малдовы і Беларусі былі абмеркаваны пытанні, якія датычаць далейшага развіцця беларуска-малдаўскіх адносін.

***

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову "Аб неадкладных мерах, звязаных з засухай у рэспубліцы". У дакуменце адзначаецца, што практычна на ўсёй тэрыторыі склаліся крайне неспрыяльныя ўмовы для пасеваў сельскагаспадарчых культур.

На значных плошчах яны загінулі. Асабліва пацярпелі Брэсцкая і Гродзенская вобласці. З-за засухі ў многіх калгасах, саўгасах, фермерскіх (сялянскіх) гаспадарках, а таксама ў асабістых падсобных гаспадарках грамадзян чакаецца значны недабор ураджаю, што выкліча вялікія цяжкасці ў забеспячэнні насельніцтва харчаваннем.

Падкрэсліваецца, што ў гэтых умовах неабходна прыняцце тэрміновых і эфектыўных мер для максімальна магчымага змяншэння адмоўных вынікаў экстрэмальных умоў надвор'я. Кабінет Міністраў вызначыў комплекс такіх мер.

***

Днямі ва ўрадзе рэспублікі адбылася рабочая нарада кіраўнікоў ВНУ Беларусі. З рэктарамі вышэйшых навучальных устаноў сустракаўся намеснік старшыні Кабінета Міністраў В.Ганчар.

У час сустрэчы ішла зацікаўленая гутарка пра няпростыя працэсы рэфармавання ўрадавых структур.

Віцэ-прэм'ер і прысутныя на нарадзе кіраўнікі ВНУ, у прыватнасці, абмеркавалі канкрэтныя шляхі актывізацыі дзейнасці такога органа, як савет рэктараў навучальных устаноў рэспублікі.

**Паводле паведамленняў БЕЛІНФАРМа.**

СПАДЧЫНА

# Падарожжа ў XVIII стагоддзе

## чакае наведвальнікаў Доміка рамёстваў, што адкрыўся ў Гродна

□ Лілія АСТРАВЕЦКАЯ

*"...Вялізныя залатыя гронкі вінаграду абазначалі гандляроў віном; боты ў мядзведжых лапах — шаўцоў, колы — экіпажных майстроў, маткі залатой пражы — пазументшчыкаў, па-майстэрску сплеценыя з конскага воласу косы — цырульнікаў, грозныя бляшаныя шаблі — збройнікаў. Дзе-ні дзе зіхацелі сярэбраныя нажніцы краўцоў, дзе-ні дзе за шклом ці на спушчаных адкідных століках былі раскладзены модныя цуды, аплачваемыя на вагу золата..." Так вядомы польскі пісьменнік Уладзіслаў Рэймант у рамане "Апошні Сейм Рэчы Паспалітай" апісвае рамесніцкую вуліцу Гродна канца XVIII стагоддзя.*

Яна складалася з дваццаці амаль аднолькавых домікаў, дзе гарадзенскі стараста Антоній Тызенгаўз пасяліў запрошаных з-за мяжы майстроў. Іх вырабы, што аздаблялі палацы мясцовай знаці, ні па якасці, ні па прыгажосці не ўступалі завезеным з іншых краін свету. Напэўна, таму вуліцы далі назву Раскоша.

Зараз былая Раскоша носіць імя Элізы Ажэшка, а з двух дзесяткаў дамоў XVIII стагоддзя захаваўся адзін. Пасля доўгай і старannай рэстаўрацыі ў ім адкрыўся Домік рамёстваў — філіял Гродзенскага абласнога гісторыка-археалагічнага музея.

Рэстаўратары і супрацоўнікі музея паспрабавалі па шматлікіх апісаннях аднавіць у першапачатковым выглядзе жыллё рамесніка часоў Тызенгаўза. Будынак мае аўтэнтычны мураваны фасад і драўляную прыбудову, зробленую ў наш час, але па канонах будаўніцтва XVIII стагоддзя.

Згодна з легендай, гарадзенскі стараста ўзвёў напачатку два дзесяткі адных толькі фасадаў, накшталт славутых пацёмкінскіх вёсак, якімі князь пусціў пыл у вочы імператрыцы Екацярыне. Замежныя майстры таксама "купіліся" на добротныя грунтоўныя фасады і далі згоду перасяліцца ў Гродна. І толькі пасля пераезду Тызенгаўз абвясціў, што завяршаць будоўлю ім прыйдзецца самім, і ўжо не з каменю, а з дрэва.

Невядома, як спадабалася неспадзяванка рамеснікам, але з працай яны справіліся на славу. Чаго, на жаль, нельга сказаць пра сучасных рэстаўратараў. Справа ў тым, што Домік рамёстваў адбудаваны ўжо некалькі гадоў таму. Адкрыццё яго затрымлівалася ўвесь гэты час з-за недаробак і хібаў. Па ўсяму відаць, не ўдалося сучасным спецыялістам, набіўшым руку на шкле і бетоне, спасцігнуць усе сакрэты старадаўняга будаўніцтва.

Галоўны клопат — глыбокі склеп, што ў дажджлівы сезон ператвараецца ў сапраўдны крыты басейн і распаўсюджвае вільгаць па ўсяму будынку, застаўся і да сёння. Больш дробныя хібы агульнымі сіламі выправілі. Так, новым гаспадыням доміка на чале з загадчыцай філіяла Вольгай Чарнікевіч нават сцены давялося перараканапачваць. У матэрыяле, які выкарысталі будаўнікі, развяліся цэлыя зграі молі — не лепшае, згадзіцеся, суседства для бясцэнных экспанатаў.

Зараз Домік рамёстваў набыў, нарэшце, выгляд, які дае ўяўленне аб быце колішніх жыхароў Раскошы. У адным з пакояў узноўлены інтэр'ер майстэрні рамесніка. У строгім парадку тут вывешаны створаныя па эскізах складаныя інструменты, што выкарыстоўваліся менавіта ў Гродна. На рабочым стале — кніга з ксеракопіямі прылад, якімі карысталіся на гродзенскіх мануфактурах. На паліцах — керамічны посуд, знойдзены на Гарадніцы пад час раскопак (майстэрня адначасова служыла кухняй). Ля сцяны — аўтэнтычная шафа XVIII стагоддзя.

Другая зала дае агульнае ўяўленне пра Гродна часоў Антонія Тызенгаўза. Побач з макетам тагачаснай Гарадніцы — вырабы гарадскіх мануфактур: шкляной, ганчарнай, суконнай, палатнянай, карэтнай... І, нарэшце, трэці пакой пераносіць наведвальніка ў сучаснасць: тут будуць размяшчацца зменныя экспазіцыі работ гродзенскіх умельцаў.

А ў фае ўжо зараз разгорнута выстава-продаж, дзе жыхары і госці Гродна могуць набыць керамічныя вырабы, узоры разьбы па дрэве, вышыўкі самадзейных майстроў.

Першыя тыдні працы Доміка рамёстваў паказалі, што яго не спасцігне лёс нямодных музейных залаў. Прычын таму нямала. Гэта і ўзрослая цікавасць гараджан да сваёй гісторыі, і ўдалае месцазнаходжанне Доміка на бойкім месцы. І, галоўнае, зацікаўленасць майстроў-аматараў, якія дагэтуль не мелі ўласнай выставачнай пляцоўкі і знаходзілі прытулак сваім творам у музеях і зале выстаў абласнога Саюза мастакоў.

Ёсць у гэтым і немалая заслуга супрацоўнікаў Доміка рамёстваў, якія плануюць прадоўжыць пошукі і ўзбагаціць будынак новымі дакладнымі дэталямі, ператварыўшы яго для сучаснікаў у своеасаблівае акенца ў Гродна XVIII стагоддзя — аднаго з перыядаў яго найбольшага росквіту.

■

ПА-СУСЕДСКУ

### А цэны ўсё растуць

***Паводле даных Дзяржаўнага дэпартамента статыстыкі Эстоніі, спажывецкі індэкс у другім квартале 1994 года ў параўнанні з першым узрос на 11,9 працэнта.***

Прадукты падаражалі ў сярэднім на 6,9 працэнта, прамысловыя тавары — на 3,2 працэнта. Кошт паслуг у другім квартале ўзрос на 23,3 працэнта. Прамтавары і паслугі ў другім квартале 1994 года ў параўнанні з другім кварталам мінулага года павысіліся ў цане на 59,8 працэнта.

### Першы электронны каталог

***У Эстоніі падрыхтаваны першы электронны каталог прадпрыемстваў рэспублікі.***

Ён уяўляе сабой электронны рэгістр, які змяшчае звесткі аб 60 тысячах фірмаў з указаннем іх назваў, адрасоў, нумароў тэлефонаў і факсаў, сфер дзейнасці. Цана каталога — 1942 кроны плюс падатак з абароту. Купіць яго можна ў Тарту, Таліне і Вільяндзі.

### Будзе месца – будзе і мячэць

***Урад Турцыі згодны фінансаваць будаўніцтва мячэці ў Таліне.***

Зразумела, гэта адбудзецца ў тым выпадку, калі ўрад Эстоніі дасць сваю згоду на ўзвядзенне мячэці і выдзеліць участак пад будаўніцтва. Як паведаміў старшыня турэцкага таварыства ў рэспубліцы Фархад Гейдарлі, тут цяпер пражывае каля 12 тысяч прадстаўнікоў цюркамоўных народаў і было б нармальным і адпавядала б дэмакратычным устаноўкам сучаснай дзяржавы, калі б гэтым людзям была дадзена магчымасць правіць рэлігійныя абрады. Магчыма, праект мячэці для Таліна будзе зусім незвычайным і ўлічыць гістарычныя архітэктурныя асаблівасці сталіцы Эстоніі, яе стыль ранняга сярэдневякоўя.

### Нашэсце ядавітых водарасцей

***Нашэсце да берагоў Эстоніі сініх водарасцей у небяспечнай для здароўя чалавека канцэнтрацыі стала непакоіць адпачываючых.***

Аднак таварыства выратавання на водах паведаміла, што на самай справе пакуль невядома ні аднаго выпадку, калі купальшчык быў бы небяспечна атакаваны водарасцямі. Пакуль водарасці аднесла ў адкрытае мора, але спецыялісты раяць на ўсякі выпадак абліваецца прэснай вадой пасля купання ў моры або пераапранацца.

Патэнцыяльна сінія водарасці надзвычай небяспечныя. Супрацоўнікі Інстытута мора бяруць штодзённа пробы вады на пляжах і абяцаюць у выпадку рэальнай небяспекі неадкладна паведаміць грамадскасці.

### Дзве кроны за гадзіну

***З 1 верасня дзяржаўная стаўка аплаты працы ў гадзіну ў Эстоніі будзе складаць дзве кроны 65 сентаў, а ўчотная мінімальная стаўка месячнай зарплаты пры рабоце ў межах нарміраванага часу — 450 крон.***

Міністэрствам, дзяржаўным установам і іншым цэнтральным арганізацыям, у сістэме якіх ёсць бюджэтныя ўстановы і арганізацыі, трэба прадставіць міністэрству фінансаў краіны хадайніцтвы на атрыманне дадатковых сродкаў, неабходных для павелічэння персаналу зарплаты да памераў мінімальнай. Кіраўнікам устаноў дадзена ўказанне прааналізаваць выкарыстанне рабочага часу супрацоўнікамі і пры неабходнасці ўнесці змяненні ў працоўныя дагаворы з улікам фактычнага часу работы. Гэта вызначана пастановай урада рэспублікі.

**БЕЛІНФАРМ.**

ТЫДЗЕНЬ ПА ГАРАСКОПУ

## 15–21 жніўня

***ЛЕЎ***

На пачатку тыдня — удача ў фінансавай сферы. Новых спраў вам лепш не пачынаць. Наведайце тэатр або музей. Асцерагайцеся зайздроснікаў.

З серады пастарайцеся далёка не выязджаць, каб пазбегнуць непрыемнасцей.

***ДЗЕВА***

У панядзелак пачніце вырашэнне ўсіх важных спраў. Не давярайце нікому ў бізнесе. Стрымлівайце свае эмоцыі.

З 20-га Меркурый дапаможа вам у адносінах да бліжэйшага асяроддзя і на працы.

***ШАЛІ***

У першыя дні тыдня — гармонія ў каханні. Поспех ва ўсіх вашых пачынаннях. Шмат сустрэч з сябрамі.

Магчымы матэрыяльны прыбытак у сераду.

Месяц вам паспрыяе ва ўсім 17-га.

***СКАРПІЁН***

Пастарайцеся не нервавацца 15-га і 16-га. Звярніце ўвагу на сваё здароўе. Найбольш значныя для вас справы пачніце ў аўторак і сераду. Магчыма фінансавая ўдача.

У выхадныя дні лепш адправіцца ў падарожжа.

***СТРАЛЕЦ***

Кароткія паездкі і сустрэчы з сябрамі з 15-га па 18-е. Вырашэнне важных праблем на працы ў сярэдзіне тыдня. Не адмаўляйцеся ад запрашэнняў. У складаныя дні, 15-га і 19-га, стрымлівайце свае эмоцыі.

***КАЗЯРОГ***

Будзьце асцярожнымі ў панядзелак. 15-га і 16-га — любоўныя адносіны і інтымныя сустрэчы. Вырашэннем фінансавых пытанняў займіцеся 19-га і 20-га. Выхадныя правядзіце на прыродзе. Магчыма рамантычнае падарожжа.

***ВАДАЛЕЙ***

На пачатку тыдня ў вас будзе шмат новых знаёмстваў. Больш часу прысвяціце сваім блізкім. Пастарайцеся ні з кім не канфліктаваць 15-га, 19-га, 20-га і 21-га.

Удачныя дні 16-га і 17-га.

***РЫБЫ***

Будзьце ўважлівымі на працы ў панядзелак. Займіцеся вырашэннем праблем у фінансавай сферы. 15-га, 18-га і 19-га не сварыцеся з ахоўнікамі парадку. Верагоднасць траўм. Не лепшы час для адпачынку. Павышэнне творчага патэнцыялу.

***АВЕН***

У панядзелак і аўторак — поспех у бізнесе.

Магчымы рамантычныя сустрэчы і знаёмствы ў сярэдзіне тыдня. Асцерагайцеся непрыемных выпадковасцей 20-га і 21-га.

***ЦЯЛЕЦ***

У панядзелак стрымлівайце свае эмоцыі. Займіцеся паляпшэннем быту. Больш часу правядзіце ў сям'і.

Паездкі пачынайце 17-га і 18-га.

Пасля 20-га з'явяцца расходы, звязаныя з роднымі.

***БЛІЗНЯТЫ***

Да 18-га — спрыяльны час для вырашэння пытанняў з ахоўнікамі парадку. 16-га і 17-га вам пашанцуе ў асабістым жыцці. Не задумваючыся, адпраўляйцеся ў падарожжа. Не адмаўляйцеся ад прапановы, якую атрымаеце.

***РАК***

Звярніце ўвагу на здароўе сваіх родных 15-га і 16-га. Пастарайцеся больш адпачываць. Займіцеся спортам. У канцы тыдня магчыма цудоўная паездка.

■

АДАМ І ЕВА

Фота І. МАКАЛОВІЧА.

### Сэрцу не загадаеш

Усё пачалося з таго, што Таня прыйшла да сяброўкі і тая пазнаёміла яе са сваім хлопцам Дзянісам, які вучыўся ў тэхнікуме. На першы погляд ён здаваўся зусім звычайным — сярэдняга росту, чарнявы, у меру гаваркі. Толькі ўсмешка і вочы яго былі дзівоснымі. Вось з гэтай усмешкі і пачаліся Таніны пакуты. Але ці магла яна падаць выгляд, што Дзяніс, "хлопчык" лепшай сяброўкі, ёй падабаецца? Ішоў час, больш яны не сустракаліся. Таня паспела ўжо скончыць вучобу, пайшла працаваць.

Звёў іх выпадак, дзякуючы якому Дзяніс праводзіў Таню дамоў. Усю ноч яны прасядзелі на лесвіцы ў пад'ездзе і прагаварылі. Ён расказаў пра армію, пра сяброў — так, нічога асаблівага. Успомніў і гісторыю свайго першага кахання. Маўляў, год таму яго дзяўчынка выйшла замуж, пасля чаго ён вырашыў помсціць усім астатнім.

Калі праз некалькі дзён Таня ўбачыла Дзяніса, ён зноў кагосьці праводзіў... Як прыйшла дадому — не памятала. А потым дала сабе слова: не заўважаць яго, сцерці з памяці ўсё, што было, і жыць весялей.

...Праз некалькі месяцаў Таня пазнаёмілася з цудоўным хлопцам. Ледзь ці не кожны дзень Саша прыносіў кветкі і глядзеў зачаравана. А яна ўсё думала пра Дзяніса. Думала, думала, пакуль Саша не прапанаваў пажаніцца. Уявіце сабе — Таня згадзілася.

І вось праз тыдзень вяселле. Ужо ўсё да яго падрыхтавана. Купілі з Сашам пярсцёнкі, сядзяць і разглядваюць іх. І раптам, як у кіно, — стук у дзверы. Таня адчыніла — на парозе стаяў Дзяніс.

Ад нечаканасці яна не магла вымавіць ні слова. А ён сказаў: "Я прыехаў па цябе".

Яны пажаніліся, а праз некалькі месяцаў ...Дзяніс знайшоў другую. Цяпер Таня жыве адна.

Яна так і не зразумела, што проста трапіла пад хвалю помсты. А Дзяніс... Відаць, ён ніколі не будзе шчаслівым: вельмі шмат у яго душы злосці і крыўды.

**Марыя КУЗЬМІЧ.**

### Дзе вы, прынцы?

Ой, дзяўчынкі, як хочацца памарыць аб казачным прынцу: самым добрым, самым прыгожым, які кахае цябе так, што ў сяброўак ад зайздрасці аж вочы на лоб лезуць! І марым, і чакаем, але гадоў гэтак да 14—16. А потым, калі пачынаем лепш разбірацца ў рэаліях жыцця, разумеем, што ў ім няма месца казцы. Які там прынц! Знайсці б звычайнага хлопца, каб не піў, не курыў і хоць кропельку паважаў.

Такое жаданне прыходзіць пасля таго, як сустрэнешся і пагаворыш з некаторымі "прынцамі", праедзеш у іх замежных "тачках", пасядзіш у кабаку, а потым атрымаеш няхітрую прапанову падоўжыць вечар. А калі па наіўнасці прымеш гэта за каханне і згодзішся, потым атрымаеш жорсткае расчараванне. У наступны раз "прынц" праімчыць міма цябе ў пошуках новай спадарожніцы. Гэта датычыцца і тых хлопцаў, якія лічаць сябе "крутымі", і тых, хто, акрамя бутэлькі гарэлкі, і прапанаваць нічога не ўмее. Пра кветкі, як вы здагадваецеся, можна і не ўспамінаць.

А калі ты не жадаеш сядзець дома, калі на вуліцы лета і так цягне знайсці свайго адзінага? Выйсце адно: альбо нікуды не выходзь і чытай Тургенева, альбо згаджайся з умовамі, якія табе дыктуе "моцны пол". І згаджаюцца, нягледзячы на тое, што для многіх такія адносіны непрыемныя. Як вынік — упэўненасць хлопцаў, што на іх век "кахання" хопіць.

Нам, дзяўчынкам, так хочацца сапраўднага пачуцця. Але да 18—20 гадоў ужо добра разумееш, што да чаго. Дзе вы, хлопцы, якім таксама абрыдлі выпадковыя сустрэчы і развітанні? Можа таксама сядзіце дома і марыце пра вялікае каханне?

**Вольга МАХОНІНА.**

### Лекі для каханага

Нядаўна, едучы ў цягніку са Слуцка і бавячы час з выпадковым знаёмым, пачуў гісторыю, якая зацікавіла. Не ведаю, канешне, наколькі яна дакладная і ці ўвогуле такое было, але...

Алесь быў хлопцам, "што трэба" — і ростам не пакрыўджаны, і сілай таксама. А вось наконт смеласці бог абдзяліў. Таму і адносіўся да дзяўчат хлопец неяк абыякава. Скончыў тэхнікум, працаваў у камунальнай гаспадарцы. Да работы ставіўся сумленна, чаго патрабаваў і ад падначаленых, з якімі, дарэчы, гарэлкі не піў. Менавіта таму і сяброў у Алеся было мала: аднакласнікі ўжо даўно пераженіліся, займелі сем'і і дзяцей, так што ў кожнага былі свае клопаты і заняткі.

А Алесь жыў з бацькам. І калі трохі занядужаў, то нават і ўвагі належнай на боль не звярнуў: маўляў, пройдзе. Прытомнасць страціў нечакана, з-за чаго апынуўся ў бальніцы. Там упершыню і ўбачыў яе — рослую, не вельмі прыгожую, але такую добрую і сардэчную. Ноччу, калі хворыя паснулі, яны сустрэліся ў калідоры і прагаварылі да ранку, даведаўшыся адзін пра аднаго ледзь ці не ўсё.

І Марыя (так звалі медсястру) вырашыла, што хутчэй трэба вылечыць Алеся. З аднаго боку, канешне, было добра, што ён тут знаходзіўся, але з другога хлопец цвёрда паабяцаў: выйду з бальніцы — распішамся. Дзяўчыне ж хацелася гэтага больш, чым свежага паветра. А тут якраз імпартныя лекі ў бальніцу завезлі. Марыя хутка даведалася, якія з іх больш дзейсныя, і пачала карміць імі хворага. Толькі чамусьці не паляпшаўся яго стан, а, наадварот, здаваць хлопец пачаў. І калі ціск павялічыўся да крытычнага, прыйшлося выклікаць ўрачоў з вобласці...

З бальніцы Алесь выпісаўся праз месяц. А яшчэ праз колькі тыдняў яны справілі вяселле. І толькі тады жонка "адкрыла сакрэт" мужу, як хацела яго хутчэй вылечыць. Той не пакрыўдзіўся, сказаўшы адно: "Я здагадваўся..." Невядома толькі, аб чым: аб тым, што адной нагой на тым свеце быў, ці аб тым, што Марыя так хацела замуж за яго...

**Іван СЦЯПУРА,**
**г.Асіповічы.**

■

КРЫЎДНА!

### Дуба–патрыярха вы ўжо не ўбачыце

Бездухоўнасцю, некампетэнтнасцю, безадказнасцю, нават варварствам можна назваць экалагічнае злачынства на беразе возера Свіцязь. Вясной тут спілавалі адзін з самых старых і унікальных у Беларусі дуб-двайнік, які ахоўваўся дзяржавай. Яго яшчэ называлі "дуб-патрыярх", а Якуб Колас — "дуб Даніла". З гэтым дрэвам звязаны імёны нарадавольцаў і вядомага паэта Адама Міцкевіча, які любіў адпачываць пад дубам і прысвяціў яму многія радкі. У даўнія часы нашы продкі лічылі дуб свяшчэнным дрэвам і прыходзілі да яго маліцца з абразамі.

Два гады таму "дуб-патрыярх" абследавалі польскія спецыялісты. Яны абрэзалі засохлыя галінкі, з веданнем справы заладзілі невялікае дупло, параілі абгарадзіць дрэва. Прапанавалі таксама апрацаваць дрэва спецыяльнымі бандажамі, тросамі.

Але нехта рашыў іначай. Без прадстаўнікоў грамадскасці, работнікаў аховы прыроды Навагрудскага раёна мясцовым лясніцтвам дуб быў спілаваны пад корань. Прыкрыліся паперкай, падпісанай нейкім чыноўнікам. Гэта зрабілі без папярэдняга абследавання дрэва вучонымі. Драўніна дрэва была ў асноўным здаровай. А каб не было абураных, замазалі пень цэментам, а побач пасадзілі тры кволыя дубкі, у імя "патрыярха", які ў апошнюю сваю восень шчодра адарыў зямлю жалудамі.

У тым, што адбылося, вінаватым сябе ніхто не прызнае. Наадварот, лічыцца, што папярэдзілі няшчасны выпадак, падобны да таго, што адбыўся два гады таму на возеры, калі загінулі двое пад паваленым дубам. Тут узнікае пытанне, а дзе ж былі адпаведныя службы раней, чаму не займаліся абследаваннем старых дрэў, пакуль не здарылася бяда. А цяпер вырашылі перастрахавацца: спілавалі унікальны помнік прыроды! І можна не здзіўляцца, калі вакол возера Свіцязь хутка знікнуць астатнія трохсот- і двухсотгадовыя дрэвы. Бо адказнасць за гэта, як і за дуб-двайнік, ніхто не панясе. Галоўнае — зрабіць па прынцыпу: "абы ціха".

**Эдуард КАБЯК**
**БЕЛІНФАРМ.**

■



Вось што засталося ад рэдкага помніка прыроды Рэспублікі Беларусь на беразе возера Свіцязь.

## *Супер-крыжаслоў*



1. Горная сістэма ў Еўразіі. 2. Стыль спартыўнага плавання. 3. Сатырычнае або гумарыстычнае адлюстраванне з карыкатурным перабольшаннем характэрных рыс. 4. Беларускі пісьменнік, аўтар аповесці "Палескія рабінзоны". 5. Група людзей, аб'яднаная аднолькавымі адносінамі да сродкаў вытворчасці і агульнымі інтарэсамі. 6. Савецкі лётчык-выпрабавальнік, які выпрабаваў першы рэактыўны самалёт ТУ-124. 7. Опера Дж.Вердзі. 8. Урадавы штамп у пашпарце на права ўезду ў чужую краіну або выезду з яе. 9. Сімфанічная паэма Я.Дзегцярова. 10. П'еса А.Макаёнка. 11. Далёкаўсходняя лекавая расліна. 12. Беларускі пісьменнік, аўтар раманаў "Пад мірным небам", "Шырокія гарызонты". 13. Герметычны касцюм вадалаза, касманаўта. 14. Гродзенскае вытворчае аб'яднанне імя С.Прытыцкага. 15. Назва перадапошняй літары ў лацінскім алфавіце. 16. Турбаза рэспубліканскага значэння. 17. Гарачая першая страва. 18. Опера А.Рубінштэйна. 19. Будаўнічы дахавы матэрыял. 20. Савецкі архітэктар, аўтар праектаў павільёнаў СССР на сусветных выстаўках у Парыжы. 21. Музычна-драматычны твор. 22. Галіна дзейнасці. 23. Джаз. 24. Вялікая паўночная марская ластаногая жывёліна. 25. Балет Я.Глебава. 26. Народны беларускі танец. 27. Від сярэдневяковага жывапісу. 28. Раман Э.Самуйлёнка. 29. Водны шлях для бяспечнага плавання суднаў, вызначаны сігнальнымі знакамі. 30. Італьянскі скрыпач. 31. Прыродная мінеральная сыравіна, якая ўтрымлівае металы. 32. Абалонка, у якой вусень ператвараецца ў кукалку. 33. Касмічныя пазыўныя лётчыка-касманаўта А.Нікалаева. 34. Урачысты агляд войска. 35. Савецкі цыркавы артыст, дрэсіроўшчык жывёлін. 36. Музычны знак альтэрацыі. 37. Дакладна ўстаноўленая расцэнка тавараў, або размер аплаты працы, паслуг. 38. Рака ў Беларусі. 39. Дом творчасці. 40. Страва з агародніны і грыбоў. 41. Спартыўны штурхальны снарад. 42. Дэфект прадукцыі. 43. Даўнейшая назва слоўніка. 44. Вядомы беларускі артыст. 45. Баль, вечар. 46. Беларуская народная песня. 47. Навука аб адносінах раслінных і жывёльных арганізмаў адзін да аднаго і да навакольнага асяроддзя. 48. Грашовая адзінка Японіі. 49. Спартыўны прыз. 50. Пастух. 51. Узброеныя сілы дзяржавы. 52. Літаратурна-мастацкі твор. 53. Народны ансамбль танца г.Віцебска. 54. Бязворсавы дыван ручной работы. 55. Народнасць Далёкага Усходу. 56. Усеагульная павага. 57. Тытул вышэйшага дваранства ў Англіі. 58. Сорт яблыкаў. 59. Збудаванне ў выглядзе вялікіх варот. 60. Курорт у Стаўрапольскім краі. 61. Касмадром у Казахстане. 62. Уяўная кругавая лінія, якая, праходзячы па паверхні Зямлі, злучае абодва полюсы зямнога шара. 63. Род лірычнага музычнага твора. 64. З'явы культуры, побыту, успрынятыя ад мінулых часоў. 65. Краіна на Блізкім Усходзе. 66. Адзін з напрамкаў свету. 67. Горны дзікі баран. 68. Тэлеопера Г.Вагнера. 69. Краіна на поўначы Еўропы. 70. Асвятляльная апаратура на сцэне. 71. Штучны насып для затрымання вады пры разліве, у вадасховішчы. 72. Ускоснае ўказанне на што-небудзь. 73. Сістэма поглядаў, перакананняў. 74. Узнагарода пераможцу. 75. Вайсковы атрад у Старажытнай Русі. 76. Сукупнасць навук, дысцыплін. 77. Шкло высокай якасці. 78. Аб'яднанне беларускіх пісьменнікаў у 20-х гадах. 79. Партызанская брыгада, якая дзейнічала ў час Айчыннай вайны на акупіраванай тэрыторыі Жлобінскага раёна. 80. Здольнасць павялічваць сілу гучання. 81. Перадавы саўгас на Міншчыне. 82. Гатунак. 83. Грашовая адзінка Італіі, Турцыі. 84. Тое, да чаго імкнуцца і чаго жадаюць дасягнуць. 85. Афіцыйны дыпламатычны зварот урада да ўрада іншай дзяржавы. 86. Белы клён. 87. Сукупнасць народных песень, паданняў. 88. Хімічны элемент. 89. Паўночны вецер.

Клеткі крыжаслова, адзначаныя шрыфтам з 8 літар над нумарамі ў кружочку запаўняюцца па ходу гадзіннікавай стрэлкі.

**Даслаў Валеры ПІНЧУК.**

КНІГАРНЯ

## Падарунак беларускім гісторыкам

Так сталася, што наша гістарычная спадчына расцярушана па шмат якіх бібліятэках і архівах розных еўрапейскіх краін. Значная колькасць унікальных архіўных матэрыялаў у свой час, у часы Расійскай імперыі і СССР, трапіла ў гістарычныя сховішчы Расіі і Літвы — нашых бліжэйшых суседзяў.

І вось па ініцыятыве Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны быў падрыхтаваны і выдадзены спецыялістамі з Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны, Беларускага рэстаўрацыйна-праектнага інстытута і Беларускай энцыклапедыі зборнік дакументаў па архітэктуры і картаграфіі Беларусі ў архівах Санкт-Пецярбурга і Вільні.

У гэтым зборніку, што складаецца з дзвюх частак, падаюцца назвы спраў, у якіх захоўваюцца картаграфічныя матэрыялы, планы населеных пунктаў і чарцяжы розных архітэктурных збудаванняў XVIII— пач. XX ст ст. на тэрыторыі Беларусі, а таксама фота і чарцяжы беларускіх помнікаў архітэктуры.

1-я частка мае назву "Беларускія картаграфічныя матэрыялы ў Расійскім дзяржаўным архіве Ваенна-марскога флоту (Санкт-Пецярбург)".

Расійскі дзяржаўны архіў Ваенна-марскога флоту — адзін з самых старажытных архіваў Расіі. Гісторыя яго пачынаецца з 1724 года, калі быў створаны Архіў Адміралцейства-калегіі Ваенна-марскога флоту СССР. У фондах архіва захоўваюцца дакументы Ваенна-марскога флоту Расіі ад пачатку яго стварэння (канец XVII ст.) да 1940 г. па гісторыі стварэння і будаўніцтва, пра геаграфічныя і навуковыя адкрыцці, суднабудаўнічыя прадпрыемствы, дзеячаў флоту і г.д.

Для даследчыкаў гісторыі архітэктуры Беларусі вялікую цікавасць уяўляюць матэрыялы, якія захоўваюцца ў фондзе "Главного инженерного управления Военного министерства России".

Тут можна знайсці планы такіх беларускіх гарадоў як Полацк, Рагачоў, Стоўбцы, Клімавічы, Навагрудак, Кобрын, Копысь, Мінск, Магілёў і Мазыр. Ёсць у гэтым архіве і матэрыялы пра будаўніцтва крэпасцей у Бабруйску, Брэсце і Рагачове, чарцяжы розных гістарычных будынкаў Нясвіжа, дакументы забудовы Слуцка і чарцяжы Быхаўскага замка.

Другая частка зборніка называецца "Беларускія графічныя матэрыялы ў Дзяржаўным гістарычным архіве Рэспублікі Літва і аддзеле рукапісаў навуковай бібліятэкі Віленскага універсітэта". Тут пададзены архіўныя дакументы з Дзяржаўнага гістарычнага архіва Рэспублікі Літва (ДГАРЛ) і аддзела рукапісаў навуковай бібліятэкі Віленскага універсітэта пра помнікі архітэктуры Беларусі.

З архіўных дакументаў ДГАРЛ падаюцца назвы спраў з чатырох вопісаў (3-га, 12, 21 і 23-га) 1135-га фонду, у якім захоўваюцца матэрыялы "Таварыства аматараў навук у Вільні".

Вопіс 3-ці мае 743 адзінкі захавання, сярод якіх пераважаюць фотаздымкі помнікаў архітэктуры, мастацтва і этнаграфіі Беларусі. Акрамя таго ў ім захоўваецца шмат дакументаў па гісторыі і геаграфіі Беларусі, Польшчы, Расіі, а таксама рукапісы літаратурных твораў розных аўтараў (у тым ліку вершы Ул.Сыракомлі) і іх аўтографы.

Вопіс 12-ы налічвае 653 адзінкі дакументаў асабістага архіва інжынера-архітэктара, прафесара факультэта мастацтваў Віленскага універсітэта Юльюша Стэфана Клоса (1881—1933гг.).

Вопіс 21-ы ўтрымлівае фотаздымкі помнікаў архітэктуры 1920—30-х гадоў Яна Булгака, перыядычныя выданні ("Наш край", "Гомельская копейка", "Віленскі кур'ер", "Голос" і інш.), лістоўкі, пракламацыі, адозвы, звязаныя з І Сусветнай вайной і рэвалюцыйнымі падзеямі 1917 г., а таксама матэрыялы Аддзела апекі над помнікамі старажытнасці польскага камітэта ў Маскве і рэгістрацыйныя карткі званоў, эвакуіраваных з Літвы і Беларусі ў розныя губерні Расіі.

Вопіс 23-і захоўвае матэрыялы архіўных збораў М.Бажэскага, Умястоўскіх, Л.Чарноцкага, старажытныя кнігі і рукапісы літаратурных твораў, інвентары і планы беларускіх маёнткаў і гарадоў, матэрыялы па гісторыі гродзенскіх мануфактур XVIII ст, вайны 1812 г., вызваленчых паўстанняў 1794, 1831 і 1863 гадоў; розныя фотаздымкі, паштоўкі, плакаты, газетныя выразкі, атэстаты, дыпломы, патэнты на чыны і іншыя дакументы прыватнага характару, генеалагічныя матэрыялы, збор пячатак і інш.

Выданню зборніка папярэднічала цяжкая даследчая праца яго складальнікаў — вядомых беларускіх гісторыкаў архітэктуры і мастацтва — спадароў С.Ф.Адамовіч, Ул.М. Дзянісава, В.Р.Кукуні, Н.І.Пятровіч і М.М.Яніцкай.

**Алег ТРУСАЎ,**
**намеснік старшыні Камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны.**

■

